**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 43 (864) 27 кастрычніка 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by




**У Глыбокім прайшло мерапрыемства “Мы разам”, якое арганізавала дабрачынная арганізацыя “Карытас”, пры падтрымцы мясцовых уладаў і прадпрымальнікаў.**

*Фота Марыны Сінкевіч*



**Падача абвестак па тэлефоне № 166**



ISSN 2077-8023
9 772077 802009 10043

**Рэклама ў газеце «ВГ», мтс 8(029) 813-99-99**

## Глыбоцкі раён

# Вытрымаць новы экзамен

■ Чэслаў Якубовіч.

**Розныя пераўтварэнні перажываў апошнім часам айчынны АПК, дзе мяняліся назвы калгасаў на розныя СВК, а цяпер на ААТ і унітарныя сельгаспрадпрыемствы.**

Сёлета ў Віцебскай вобласці прыступілі першымі ў краіне да практычнага стварэння чатырох аграхолдынгаў, а акцыянеры Глыбоцкага камбікормавага завода на пазачарговым сходзе ўжо далі згоду на такую рэарганізацыю. Іх прадпрыемства стала галаўным у новай інтэгрыраванай структуры, да якой далучаць пакуль 8 арганізацый. Сярод яго філіялаў будзе не толькі мясцовыя мясакамбінат, але і птушкафабрыка, Глыбоцкі МКК, буйны свінакомплекс з Пастаўскага раёна. Да гэтай новай структуры далучылі яшчэ і чатыры гаспадаркі краю з жывёлагадоўчымі комплексамі. Таксама ўжо правялі рэструктурызацыю існуючых даўгоў партнёраўзавода. Іх запазычанасці спісваць не будуць, але на бліжэйшыя 3 гады прадаставілі адтэрміноўку выплат запазычанасцей, каб інтэгрыраваны холдынг стаў на ногі, павялічыў свае прыбыткі і пачаў працаваць значна больш эфектыўна. Падобныя працэсы пачаліся таксама і на базе Полацкага камбіната хлебапрадуктаў, Віцебскага мясакамбіната і Аршанскага КХП, у якіх стала 37 новых партнёраў па сумеснай дзейнасці. Дарэчы, у гэтых структур у цэлым па вобласці ёсць значны патэнцыял, каб упэўнена адчуваць сябе на рынку прадуктаў харчавання. Яны маюць чвэрць пагалоўя статку і земляў Прыдзвіння, 200 тысяч гектараў ворыва. Іншая справа, як ім холдынгі скарыстаюцца, дзе таксама адбудзецца скарачэнне штату ўпраўленцаў на месцах.

## Сененскі раён

# І значны сацыяльны праект

■ Станіслаў Раманчук.

**Хоць некаторыя крытыкуюць правядзенне Дзён беларускай пісьменнасці і святаў "Дажынак", але для многіх карысць ад іх відавочная.**

Там, дзе праводзіліся такія мерапрыемствы, многае змянілася ў лепшы бок, райцэнтры і больш буйнейшыя гарады значна папрыгажэлі. У гэтым пераканаліся і жыхары Сянно, дзе нядаўна ўшанавалі лепшых працаўнікоў сельскай гаспадаркі Віцебшчыны. Яшчэ летась там пачалі падрыхтоўку да абласных "Дажынак" і паспелі адрамантаваць, абнавіць усяго каля 180 розных аб'ектаў сацыяльнай сферы і жылфонда. Найбольш значным сярод іх стаў новы Палац урачыстых абрадаў, па сутнасці новыя фізкультурна-спартыўны комплекс, цэнтральная плошча і галоўныя вуліцы гарадка. На цырымоніі закрыцця эстафету правядзення наступнага абласнога хлебаробскага свята ў 2017 годзе перадалі Дуброўна, дзе таксама без раскачкі ўжо пачалі рэалізоўваць новы сацыяльны праект. На ўездзе ў заснаваны ў 1514 годзе райцэнтр з насельніцтвам каля 7300 чалавек размяшчалася старая аўтастанцыя. Адсюль да абласнога цэнтра 90 км, але выгляд памяшкання агэтуль быў даволі непрывабны. Таму мясцовы філіял аўтапарка № 3 Оршы ўжо прыступіў да рэканструкцыі свайго аб'екта. Яго работнікі знялі з пасадачных платформ старыя формы. Яны будуць іншай, больш прыгожай і высокай канфігурацыі. Сам будынак аўтастанцыі таксама зменіць свой выгляд, стане сучасным і больш цёплым з-за новых шклопакетаў. Зала чакання пасажыраў і касы ўнутры зменяць свой інтэр'ер, тут з'явяцца патрэбныя зручнасці. Будаўнікі заменяць цеплавую гаспадарку, падвядуць сучасныя камунікацыі. Дарэчы, у вобласці ўжо вызначыліся, што ўслед за дубровенцамі пераўтварэнні ад "Дажынак" чакаюць потым Верхнядзвінск і Браслаў.

## Пастаўскі раён

# Для сяброў няма граніц

■ Кастусь Александровіч

**Многія беларускія рэгіёны апошнім часам актыўна развіваюць партнёрскія сувязі з замежнымі краінамі, наладжваюць кантакты, дзеляцца вопытам дзейнасці.**

Вось і Пастаўскі раён мае 13 гарадоў-пабрацімаў у розных кутках кантынента, нават спецыяльны помнік з гэтай нагоды адкрылі ў гарпарку падчас аднаго з Міжнародных фестываляў народнай музыкі. Сёлета дэлегацыю пастаўчан запрасілі зноў на дні Рэзекненскага краю, а латышы папрасілі, каб абавязкова з ёй прыехаў дырэктар ААТ "Навасёлкі-Лучай" Юрый Шымчык, дзе дзейнічае сучасная рабатызаваная ферма. Праз некаторы час ужо восенню латышы прыехалі зноў да беларусаў, бо іх фермеры таксама прыступілі да стварэння малочных ферм з робатамі. Адбылася вельмі патрэбная абодвум бакам сустрэча зацікаўленых спецыялістаў, бо на нашай ферме ў Коўзанах сёлета ад кожнай каровы павінны атрымаць па амаль 7500 літраў малака. Латышы пагадзіліся падзяліцца з беларусамі найноўшымі электроннымі праграмамі разлікаў рацыёнаў кармлення статку. Таксама адна са школ раёна з гарпасёлка Варапаева вось ужо 20 гадоў цесна супрацоўнічае па праграме міжнародных міжшкольных абменаў з падобнай школай з невялікага баварскага гарадка ў Германіі. Цесныя кантакты і сяброўства завязаліся даўно, а цяпер у век інтэрнэту і скайпу рабіць гэта стала яшчэ лягчэй. Цэлы тыдзень нямецкія школьнікі правялі на Пастаўшчыне, не толькі разам вучыліся, пасадзілі бярозавую алею, пабывалі на розных экскурсіях, ладзілі сумесныя канцэрты, дыскатэкі, спартыўныя спаборніцтвы. У сваю чаргу нашы дзеці вельмі старанна вывучаюць нямецкую мову, бо рэгулярна ездзяць да сваіх новых сяброў у цэнтры Еўропы.

## Аб самым надзённым

# ХОЦЬ БЕЛАРУСЬ ШЧЫЛЬНА СЯБРУЕ З КІТАЙЦАМІ, АЛЕ БЕЛАРУСКІ ЭКСПАРТ У КІТАЙ СЁЛЕТА ВЕЛЬМІ МОЦНА ЗНІЗІЎСЯ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Сальда знешняга гандлю Беларусі з Кітаем адмоўнае і сёлета наблізілася да 1 млрд. долараў. Мы прадаём у Паднябесную пераважна калійныя ўгнаенні і нафтахімію. Кітайцы вельмі доўга вялі торг вакол цэн на калій і ў выніку адчувальна збілі іх з леташніх 315 USD да 219 долараў за тону.**

З надыходам сапраўднай восені ў нас неяк вельмі рэзка захаладала, а таксама многіх устрывожыла серыя гучных заказных, верагодна, забойстваў беларускіх бізнесменаў. Напярэдадні ацяпляльнага сезона пацвердзілася, што эканамічны крызіс у Беларусі працягваецца, бо вырасла колькасць сем'яў за рысай беднасці. Па афіцыйнай статыстыцы ў няпростым матэрыяльным становішчы знаходзяцца ўжо больш паўмільёна суайчыннікаў. Між тым на фоне пахаладання расійска-беларускіх адносін на грані малочна-газавай вайны (паміж саюзнікамі зноў "искрит") адбыўся ўжо 9-ты па ліку дзяржаўны візіт А. Лукашэнкі ў Кітай.

Як вядома, беларускі лідар у Пекіне правёў шэраг важных сустрэч і перамоў з самымі ўплывовымі кітайскімі кіраўнікамі, узнагародзіў свайго калегу Сі Цзіньпіня новым ордэнам з брыльянтамі "За ўмацаванне міра і дружбы". Кіраўнік дзяржавы на сустрэчы са студэнтамі Пекінскага ўніверсітэта зноў пашкадаваў пра распад СССР, хоць менавіта гэта гістарычная падзея вывела яго на вяршыню палітычнага жыцця. Аднак галоўнае, што ў кітайскай сталіцы было падпісана каля 30 розных дамоўленасцей аб развіцці стратэгічнага супрацоўніцтва з Кітаем у розных сферах гандлю, інвестыцый, прамысловасці, адукацыі і навукі.

Зразумела, такія падыходы становўчыя і прыносяць пэўную карысць нашай краіне, аднак і пераацэньваць іх значэнне не выпадае. Справа ў тым, што кітайцы – даволі няпростыя партнёры для ўсіх у свеце, а ў нашым супрацоўніцтве з імі асабліва ў сферы эканомікі застаюцца пэўныя праблемы. Беларускія прамысловыя тавары, скажам шчыра, для кітайцаў у большасці сваёй ім нецікавыя. Сальда знешняга гандлю Беларусі з Кітаем адмоўнае сёлета і наблізілася да 1 млрд. долараў. Мы прадаём у Паднябесную пераважна калійныя ўгнаенні і нафтахімію. Кітайцы вельмі доўга вялі торг вакол цэн на калій і ў выніку адчувальна збілі іх з леташніх 315 USD да 219 долараў за тону.

Пакуль мала на кітайскі рынак трапляе і беларускіх прадуктаў харчавання (усяго на 15 млн. долараў за 7 месяцаў), хоць доступ туды маюць 34 нашы малзаводы. У выніку з пачатку года Беларусь прадала кітайцам тавараў на 107 млн. USD, альбо толькі пятую частку леташняй сумы. А вось наш далёкі ўсходні партнёр прадаў за гэты аднаведны перыяд на беларускі рынак тавараў на 1,034 млрд. долараў, розніца даволі адчувальная. Праблема і ў тым, што большасць кітайскіх бізнесменаў не надта лічаць нашу краіну прыцягальнай для прамых інвестыцый.

Супрацоўніцтва ў іншых сферах таксама мае шэраг падводных камянёў. Сапраўды, кітайцы гатовы выдзеліць нам значныя крэдытныя лініі, адна з іх была на 15 млрд. долараў, але і палову тых сродкаў пакуль не асвоілі. На самой справе кітайскія крэдыты асабліва і не толькі тым, што за іх трэба вяртаць валюту з працэнтамі. Яны даюцца з умовай, што пад праекты неабходна браць кітайскія тэхналогіі, матэрыялы, а ў некаторых выпадках яшчэ і кітайскую рабочую сілу. Фактычна такім чынам забяспечваецца продаж нам кітайскіх тавараў, асобныя з іх могуць быць горшай якасці, чым аналагічныя замежныя аналагі.

Існуе шэраг праблем і вакол стварэння Кітайскага індустрыяльнага парку паблізу Мінска. Нават А. Лукашэнка нядаўна абураўся марудным ходам там работ, а ва ўрадзе скардзіліся, што не прыйшлі туды стратэгічныя інвестары, гатовыя ўзвесці самыя сучасныя заводы. Праўда, кітайскія партнёры вельмі дапамаглі беларусам стварыць грозную зброю, сучасныя сістэмы рэактыўнага залпавага агню "Паланез", калі Крэмль не захацеў нам у гэтым дапамагчы. І вось калі, не дай Бог, палезуць на нашу зямлю розныя "зялёныя ветлівыя чалавечкі" на крымска-данецкі манер, іх будзе цяпер чым спыніць, ад захопнікаў не застанецца нават мокрага месца.

Безумоўны плюс, што з дапамогай Кітая паблізу Барысава паўстане неўзабаве сучасны аўтазавод, але могуць быць праблемы з рэалізацыяй гатовай прадукцыі на расійскім рынку. Увогуле далейшае цеснае збліжэнне і паглыбленне супрацоўніцтва з адным з лідараў сусветнай эканомікі для Беларусі вельмі важна на фоне адчувальнага пагаршэння расійска-беларускіх адносін. Спрэчкі розныя, непаразуменні множацца, на жаль, штотыдзень. Вось Расія пачала абвінавачваць нас ні быта ў маштабным рээкспарце ўкраінскага сыру, а беларускі лідар услед за візітам у КНР у гэтым месяцы наведаў яшчэ адну з самых густанаселеных краін свету Пакістан.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 27.10.16 | | | | Пятніца 28.10.16 | | | | Субота 29.10.16 | | | | Нядзеля 30.10.16 | | | | Пан. 31.10. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | +1 | +5 | +3 | +1 | +2 | +2 | +4 | +4 | +3 | +5 | +4 | +2 | +1 | +3 | +3 | +2 | +1 | +3 |
| Ціск | 757 | 759 | 759 | 758 | 758 | 755 | 750 | 744 | 744 | 745 | 745 | 744 | 744 | 744 | 744 | 743 | 744 | 744 | 745 |
| Вецер м/сек | 5 Пн-З | 3 З | 4 Пд-З | 4 З | 4 З | 3 Пд | 8 Пд | 6 Пд-З | 9 Пн-З | 7 Пн-З | 6 Пн-З | 7 Пн-З | 7 Пн-З | 7 Пн-З | 5 Пн-З | 4 Пн-З | 5 Пн-З | 5 Пн-З | 2 Пн-З |
| Вільготнасць | 100 | 100 | 78 | 90 | 96 | 94 | 91 | 100 | 98 | 99 | 84 | 96 | 97 | 98 | 88 | 100 | 100 | 100 | 84 |

## Дзень за днём

**Разгарэўся новы канфлікт наконт павышэння тарыфаў за транзіт расійскай нафты праз Беларусь. За 2 дні дэпутаты старога парламента зацвердзілі дзяржбюджэт Беларусі на 2017 год. У наступным годзе дзяржаўныя расходы ў Беларусі скароцяць на 10 %. Белстат пацвердзіў, што зарплату меней 300 рублёў атрымоўваюць амаль 400 тысяч чалавек. "Беларусбанк" перадумаў браць плату за разлікі наяўнымі. За апошнія 5 гадоў на вытворчасці скарацілі 255 тысяч беларусаў, але іх прыбавілася ў сферы паслуг на 45 тысяч. ЕС прапанаваў зноў Беларусі ўвесці мараторый на пакаранне смерцю. Толькі 11 беларусаў выказалі жаданне пачаць сёлета альтэрнатыўную службу.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Дзяржсакратар ЗША Д. Керры пацвердзіў, што ў Масквы не павінна быць сумненняў з нагоды падтрымкі амерыканцамі стабільнай, адзінай і вольнай Украіны.

**ЗША.** Былы 67-гадовы прэм'ер-міністр Партугаліі каталік Антоніо Гутэррыш стаў новым генсекам ААН, прыступіць да працы ў студзені 2017 года, валодае 4-мя мовамі.

**Сірыя.** Прэс-сакратар войск ЗША Цім Кук заявіў, што адзіная мэта перакінутых сюды рускімі навейшых ракетных сістэм С-300 Вм "Антэй-2500" – гэта авіяцыя Захаду.

**Англія.** Канфлікт Расіі і ЗША ў Сірыі, як заявіла газета "Guardian", стаў мацней, чым быў раней у самыя змрочныя перыяды халоднай вайны, ён можа перарасці ў вялікую вайну.

**Іспанія.** Краіна падняла ваенную авіяцыю на перахоп двух расійскіх стратэгічных бамбардзіроўшчыкаў Ту-160, па трывозе падымалі самалёты Нарвегія, Англія, Францыя.

**Германія.** Урад краіны пачаў разгляд варыянтаў увядзення новых больш жорсткіх еўрапейскіх санкцый супраць Расіі ў адказ на яе бесчалавечную агрэсію ў Сірыі.

**ЗША.** На палігоне ў штаце Невада прайшлі паспяховыя выпрабаванні найноўшых атамных бомб В61-7 і В61-11 з магчымасцю карэкціроўкі курсу іх палёту з самалётаў.

**Сірыя.** Пасля 5 гадоў вайны і гібелі больш 100 тысяч ваенных, як заявіў экс-спецпамочнік прэзідэнта ЗША Ф. Гардон, у рэжыма Асада не хопіць сіл для кантролю ўсёй краіны.

**Украіна.** МЗС краіны афіцыйна рэкамендаваў суайчыннікам устрымацца ад паездак у Расію, дзе на яе тэрыторыі ўзрасла колькасць неабгрунтаваных арыштаў украінцаў.

**ЗША.** Спецыялісты кампаніі Mastercard распрацавалі новую тэхналогію ідэнтыфікацыі плацельшчыкаў і інтэрнэт-пакупнікоў па фотаздымках без ПІН-кодаў і пароляў.

**Польшча.** Амаль 30 тысяч палякаў выйшлі пад даждажом у Варшаве на акцыю пратэсту супраць поўнай забароны абортаў, бурлілі Кракаў, Вроцлаў, Гданьск, яшчэ шмат гарадоў.

**Францыя.** Еўрапейскі суд па правах чалавека задаволіў іск першага асуджанага па "балотнай справе" Я. Белавусава, Расія выплаціць яму 12,5 тысяч еўра за здзекі над ім.

**Украіна.** Экс-глава так званага Савета бяспекі "ДНР" А. Хадакоўскі пацвердзіў у інтэрв'ю агенцтву Reuters, што ў Данбасе Расія плоціць зарплаты і пенсіі, але сумы не назваў.

**Расія.** Тэлеканал "Дождь" знайшоў у Карэліі побач з востравам Валаам яшчэ адну сакрэтную рэзідэнцыю Пуціна, ён мае ўжо 23 шыкоўныя палацы акрамя 20 дзярждач.

**Калумбія.** Новы прэзідэнт ФІФА Д. Інфанціна прапанаваў павялічыць да 48 каманд колькасць удзельнікаў чэмпіянату свету па футболе, пакуль там гуляюць 32 зборныя.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Намеснік міністра эканомікі А. Ярашэнка прызнаў, што ў Беларусі зараз самая нізкая зарплата сярод дзяржаў-членаў ЕАЭС, за рысай беднасці болей 210 тыс. сем'яў.

**Кобрын.** Холдынг "Амкадор" падпісаў з Кітаем кантракт на 400 млн. USD на ўзвядзенне новага завода і мадэрнізацыю ў райцэнтры і ў Гомелі заводаў кампаніі–партнёра "Салеа".

**Бабруйск**. Па заключаным кантракце ААТ "Белшына" паставіць у Пакістан у бліжэйшыя 4 гады сваёй прадукцыі на 15 млн. долараў, там могуць стварыць і сумесны завод.

**Гомель.** Вярхоўны суд адхіліў апеляцыю на смяротны прыгавор 33-гадовага гамяльчаніна С. Астрыкава, яго расстраляюць за забойства і згвалтаванне дзвюх маладых дзяўчат.

**Мінск.** Эканаміст С. Чалы заявіў, што адвяргаючы рэкамендацыі МВФ, улады Беларусі не жадаюць браць палітычную адказнасць за правядзенне наспеўшых рэформ.

**Барысаў.** Самая вядомая сярод беларусаў, ваюючых на баку сепаратыстаў у Данбасе, снайперша барысаўчанка Н. Красоўская загінула там, як пацвердзіў адзін з баевікоў.

**Мінск.** Перад сваёй адстаўкай міністр працы і сацабароны М. Шчоткіна прапанавала кардынальна змяніць сістэму аплаты працы бюджэтнікаў на водкуп іх кіраўнікоў.

**Вілейка.** З-за пажару вечарам па неасцярожнасці пенсіянеркі ў падвале з трохпавярховага жылога дома прыйшлося эвакуіраваць 34 яго жыхары, ніхто з іх не пацярпеў.

**Мінск.** МЗС Беларусі дазволіла расійскаму алігарху М. Гуцэрыеву адкрыць у сталіцы прадстаўніцтва яго інвестыцыйнай брытанскай кампаніі GCM Global Energy.

**Іўе.** Падчас тушэння пажару на калгасным зернясховішчы пажарныя выратавалі 15 тон збожжа і прадухілілі ўзгаранне суседняга склада, але 4 тоны проса агонь знішчыў.

**Магілёў.** У кафядральным касцёле св. Станіслава пачалі праводзіць каталіцкія імшы на рускай мове па просьбе вернікаў, але на набажэнствы прыходзіць няшмат людзей.

**Гродна.** Суд пакараў 30-гадовага жыхара раёна 3 гадамі турмы за інтымныя сувязі з дзвюмя вучаніцамі 9 класа, адна з іх зацяжарыла, на разглядзе яшчэ 2 падобныя справы.

**Нароўля.** 57-гадовы жыхар вёскі Красноўка павесіўся пасля таго, як ДАІ аштрафавала яго за язду на падпітку, краіна 10 год уваходзіць у лік "лідараў" у свеце па самазабойствах.

**Мазыр.** Жыхары райцэнтра перажылі сапраўдны патоп, на працягу сутак тут выпала найбольш у Беларусі ападкаў, паўтарамесячная норма дажджу 64 мм, заліло і Брагін.

**Пінск.** Знакамітая спартсменка Аліна Талай заявіла, што трэба кожнаму ведаць родную мову сваёй краіны, з кожным годам папулярнасць беларускай мовы будзе расці.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Мінэканомікі хоча пашырыць пералік відаў дзейнасці, для якіх не трэба будзе адкрываць ІП



■ FINANCE.TUT.BY

**Міністэрства эканомікі ў бліжэйшыя два месяцы будзе прапрацоўваць прапановы з нагоды пашырэння пераліку відаў дзейнасці, для заняткаў якімі не трэба будзе адкрываць ІП.**

Пра гэта было заяўлена на чарговай рабочай групе па пытаннях працы ІПэшнікаў, паведамілі FINANCE.TUT.BY ў прэс-службе міністэрства.

Пытанне пашырэння пераліку абмяркоўвалася ў сувязі з так званай самазанятасцю. Цяпер гэтага тэрміна ў нашым заканадаўстве няма. А вось віды дзейнасці, якімі можна займацца без рэгістрацыі ІП, ёсць. У яго, нагадаем, уваходзяць рэпетытары, людзі, якія аказваюць паслугі тамады на вяселлях і гэтак далей.

Некаторы час таму лідар РГА «Пэрспэктыва» Анатоль Шумчанка прапанаваў уключыць у лік самазанятасці і тых, хто займаецца рознічным гандлем. Праўда, да такой прапановы чыноўнікі ставяцца скептычна.

Затое ў Мінпрацы і сацабароны знайшло падтрымку іншае «хворае» пытанне - аб выплаце ўзносаў у ФСАН. Нагадаем, прадпрымальнікі прапанавалі плаціць страхавыя ўзносы ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва прапарцыйна адпрацаванаму часу. Калі казаць проста: не працуеш - не плаціш.

«Гэтае пытанне не абмяркоўвалася на праведзенай сёння рабочай групе, аднак мы атрымалі адказ ад Мінпрацы і сацабароны з гэтай нагоды: яны прынцыпова гатовыя падтрымаць гэтую прапанову», - удакладнілі ў прэс-службе Мінэканомікі.

Там таксама дадалі, што па выніках рабочай групы вырашана працягнуць працу над паняццем мікрапартыі тавару для ІП (па ім ідзе спрошчаны парадак увозу). Акрамя таго, асобна прапрацоўваецца пытанне сувымярэння памеру адміністрацыйнага пакарання і ўзроўню даходаў ІП.

## У Беларусі з 21 кастрычніка можна аплачваць тэхагляд праз АРІП

УП «Белтэхагляд» з 21 кастрычніка падключана да сістэмы «Разлік» Адзінай разліковай і інфармацыйнай прасторы, паведамілі БЕЛТА старшыня праўлення ААТ «НКФО» АРІП «Алег Верамейчык.» Дзякуючы падключэнню да аўтаматызаванай інфармацыйнай сістэме «Разлік» АРІП аплата тэхагляду цяпер даступная ў любым банку, на пошце ці праз інтэрнэт-банк і іншыя дыстанцыйныя каналы абслугоўвання незалежна ад месца яе праходжання. Мы пратэставалі праходжанне плацяжоў па новай паслузе і запускаем яе ў масавы доступ», - сказаў Алег Верамейчык. Для плацяжу ў сістэме» Разлік «АРІП неабходна паслядоўна выбраць раздзелы: іншыя рэспубліканскія паслугі -» Белтэхагляд «- дзяржпошліна (фіз. асобы і ІП) / дзяржпошліна (юр.асобы). «Захоўваць і прад'яўляць у якасці дакумента, які пацвярджае плацёж, арыгінал квітанцыі аб аплаце дзяржаўнай пошліны больш не патрабуецца. «Белтэхагляд» з дапамогай нумара аперацыі ў АРІП сам знойдзе патрэбны яму плацёж. У выпадку неабходнасці вяртання плацяжу плацельшчыку дастаткова будзе звярнуцца ў інспекцыю Міністэрства па падатках і зборах па месцы рэгістрацыі», - дадаў Алег Верамейчык.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На працягу двух дзён абласны Камітэт дзяржкантролю праводзіў "гарачую" тэлефонную лінію па пытаннях затрымак выплат заробкаў і дзіцячых дапамог у вобласці.

**Наваполацк.** Пад вечар 42-гадовы вадзіцель "Мазды" на нерэгуліруемым пешаходным пераходзе збіў насмерць 9-гадовую дзяўчынку, моцна траўміраваў яе сястру і мужчыну.

**Глыбокае.** З дома мясцовага прадпрымальніка падчас яго камандзіроўкі і знаходжання жонкі ў санаторыі зладзеі выкралі больш 34 тысяч прыхаваных новых рублёў і валюты.

**Докшыцы.** Біскуп Віцебскі Алег Буткевіч асвяціў у раённым цэнтры новую прыгожую капліцу Уваскрослага Езуса ў цэнтры мясцовых могілак, пабудаваную за 3 гады прапры.

**Верхнядзвінск.** Паблізу дзяржаўнай граніцы на лясной дарозе нарад Полацкага пагранатрада затрымаў 8 грамадзян В'етнама, іх чакае дэпартацыя і забарона ўезду ў РБ.

**Варапаева.** Па праграме міжшкольных абменаў у пяты раз у мясцовай СШ прынялі вучняў з настаўнікамі нямецкай рэальнай школы горада Герцагенаўрах з Баварыі.

**Браслаў.** У Друйскім дзіцячым доме прайшло выязное пасяджэнне раённай камісіі па справах непаўналетніх, у сельсавеце ў 11 сем'ях 16 дзяцей у небяспечным становішчы.

**Орша.** Паблізу пасёлка Высокае затрымалі буйную партыю з 1236 літраў кантрабанднай гарэлкі і каньяку, якія вырабілі ў Казахстане на суму амаль 190 млн. старых рублёў.

**Віцебск.** Ураганны вецер павaліў у горадзе 3 дрэвы, пашкодзіў 4 легкавушкі, па вобласці засталіся без святла 92 населеныя пункты, 14 ферм і 199 трансфарматарных падстанцый.

**Наваполацк.** У Палацы культуры ААТ "Нафтан" прайшоў фестываль варэння для пажылых людзей, прысутныя паспрабавалі больш 60 відаў салодкіх прысмакаў.

**Паставы.** Падчас ліквідацыі позна вечарам пажару ў адной з кватэр райцэнтра супрацоўнікі райаддзела МНС выратавалі жыцці двух мужчын, якія былі без прытомнасці.

**Мёры.** Штат супрацоўнікаў раённага суда папоўніўся маладым спецыялістам, на пасаду сакратара суда прынялі пасля стажыроўкі выпускніцу Полацкага ўніверсітэта А. Шокель.

**Полацк.** Вучоныя археолагі выявілі ў горадзе фрагмент драўлянай пабудовы XVII стагоддзя, зруб вышынёй каля метра цудам добра захаваўся да нашых дзён.

**Глыбокае.** Падчас восеньскага кірмашу разыгралі латарэю "Шчаслівы выпадак", па бычку выйгралі жыхарка райцэнтра і з вёскі Карабы, былі 4 прызы па 4 тоны гною кожны.

**Віцебск.** На цэнтральным спартыўным комплексе ўрачыста адкрылі пасля рэканструкцыі запаснае футбольнае поле ФК "Віцебск"са штучным нямецкім газонам новага пакалення.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

# Памятаць і паважаць свае карані!

**“Венец каждой человеческой жизни есть память о ней, - высшее, что обещают человеку над его гробом, это память вечную. И нет той души, которая не томилась бы втайне мечтать об этом венце.”**

*И.А.Бунин.*

**“Только тот народ жизнестоек, который помнит свое прошлое. В этом прошлом опыт, а вместе с тем урок и мысль.”**

*С.Дангулов.*

Як мы адносіліся ў старажытнасці да сваіх продкаў? Людзі славянскага пахождання называлі богамі сваіх прабацькоў. І рытуал звароту да багоў як да прабацькоў да гэтага часу застаўся ў нас: на могілках мы ставім помнікі з фотаздымкамі, прыходзім туды, садзімся на лаўку, размаўляем з імі, прыносім ім “пасачку”, яйка. А гэта ж рытуал, які быў на капішчах, калі ставілі слупы, на іх выразалі твары – і людзі прыходзілі, запальвалі агонь, прыносілі туды ежу і звярталіся да продкаў. Гэта значыць, яны звярталіся да сваіх каранёў!

Цыялкоўскі аднойчы сказаў, што, калі людзі моляцца, ім дапамагае сіла продкаў. Не чужыя якісьці Богі, а свае продкі дапамагаюць, радавое поле! Калі звяртацца да продкаў сваім сэрцам, пачуццямі, менавіта тады дапамагае радавое поле, якое ёсць архетыпічная псіхічная энергія. Таму нам вельмі важна ўзнавіць сваю гісторыю. Калі мы сумеем вярнуцца да сваіх гістарычных каранёў, то інфальтыўны народ, якім мы з’яўляемся, стане аўтаматычна дарослым і будзе ўсведамляць, які ён, што ў цяперашняй культуры яго, а што – чужое. Самаацэнка народа прама звязана з самаідэнтычнасцю, а яго паводзіны – з яго каштоўнасцямі (ідэалогіяй), якія павінны быць нацыянальнымі. Іх мы бачым, на жаль, вельмі рэдка ў танцах, чуем яшчэ радзей у песнях, і амаль не чытаем у казках. Таму нам і падмянілі культуру.

Нам вельмі важна вярнуцца да сваіх нацыянальных каранёў, традыцый. Тады мы захаваем і сваю краіну, і сваю сям’ю. Што нам нясе цяперашняя культура, якія “традыцыі” яна навязвае вельмі дакладна і адкрыта сказаў народны артыст, актор Валянцін Гафт у вершаванай форме ў звароце да акцёра, паэта і барда Юрыя Візбара:

Попса дробит шрапнелью наши души,
Ее за это не привлечь к суду.
Часть поколенья выросло на чуши,
И новое рождается в бреду.
О «Солнышко лесное», чудо-песня!
Как мы в неволе пели, чудаки!
Пришла свобода – стали интересней
Писклявые уродцы-пошляки...
Слова – ничто, есть вопли вырожденья.
Тот знаменит, кто больше нездоров.
Кто выйдет петь без всякого стесненья,
Без совести, без страха, без штанов.
Где песня, чтобы спеть ее хотелось?
Слова где, чтоб вовеки не забыть?
Ну, что горланить про кусочек тела,
Который с кем-то очень хочет жить?
С телеэкрана, как из ресторана,
Для пущей важности прибавив хрипотцы,
Они пудами сыплют соль на раны,
Как на капусту или огурцы.



В халатике бесполая фигура
Запела, оголившись без причин...
Противно это... Спой нам, Юра,
О женской теплоте и мужестве мужчин.

А як жа зменшылася жаночай сапраўднай цеплыні і мужнасці ў нашых мужчын!

Нам жыццёва неабходна вярнуцца да сваіх каранёў, каб усвядоміць, хто мы ёсць, узяць адказнасць за сваё жыццё і свае паводзіны, за ўтрыманне ва ўзорным парадку нашых могілак і іншых месц пахавання. Патрабаваць, менавіта патрабаваць, а не прасіць у нашых дэпутатаў усіх узроўняў, мясцовае самакіраванне і штатных начальнікаў, якія маюць адносіны да гэтага, навесці парадак на ўсіх могілках і пастаянна яго падтрымліваць. Кожны з нас павінен крытычна ацаніць свае адносіны да продкаў. Не па прымусу, для парадку наведваць магілы нашых продкаў на Радуніцу і Дзяды, а гэта павінна быць святое жаданне, загадам душы часцей наведваць магілы, трымаць іх у парадку.

2 лістапада мы пойдзем да нашых продкаў са справаздачай перад імі, як мы пражылі мінулы адрэзак часу, адведзены нам Творцам, і планамі на будучыню. Панясём ім дары, хто якія палічыць патрэбнымі. Можа хто па завядзёнцы прыхопіць спіртное. А ці патрэбна яно там, ці да месца могілкі для распіцця спіртнога? Лаўрэат Нобілеўскай прэміі, вучоны-біёлаг Рыта Леві-Мальцінгін, якая ўжывала спіртное вельмі рэдка, памерла на 104-м годзе жыцця, папярэджвала: “Не піце водку на родных магілах. Не апаганьвайце водкай праваслаўны крыж. Не ператварайце магілкі ў прытон разгулу, для гэтага дастаткова іншых месц. Навошта блюзнерыць над душамі памерлых? Навошта тапіць іх у водцы і віне? Ім на тым свеце ад гэтага не лягчэй, што памінаюць іх з чаркай на зямлі. Жывем бязбожна мы, жывем мы без малітвы, а таму з бяжбожнікаў які запыт? І жлукцім водку над крыжам магільным, забыўшыся, што на крыжы за нас некалі быў распяты Хрыстос”.

Старажытнарымскі гісторык Тацыт пісаў, што “ў славян няма дзяржавы – у іх законы ў галаве”. Веданне сваёй сапраўднай гісторыі, нацыянальнай культуры актывізуе так званае радавое поле – выток сілы і натхнення народа. Мы павінны вярнуцца да сваіх гістарычных каранёў, каб актывізаваць нашу генетычную духоўную сілу – славянскі архетып, які зараз “спіць” у нашым беспрытомным стане.

*Матэрыял напісаны на аснове інфармацыі друку і электроннай інфармацыі, жыццёвага вопыту.*

■ **Уладзімір Скрабатун**

# Можа нам варта купіць сінтэтычны лёд, а не чакаць Лядовага палаца?

**Усё не выходзіць з галавы думка: Ну, як так сталася – “кінулі” Глыбокае па поўнай праграме! У Докшыцах – басейн, і глыбачане ездзяць туды купацца! У Пружанах – Лядовы палац! У суседняй Бярозе – таксама. А ў Глыбокім – ні палаца, ні басейна!**

Пачаў цікавіцца гэтай тэмай, ці ёсць якая альтэрнатыва Лядовым палацам? Зайшоў па спасылцы на адзін славацкі сайт... І знойдзеная інфармацыя, калі не шакавала, дык уразіла, дакладна.

Аказваецца, можна на чыстае поле прывезці рулон сінтэтычнага лёду, раскатаць яго – і катайся на каньках, нават у самую ліпеньскую спёку! Малайцы хімікі!

Няўжо такія тэхналогіі не вядомыя на Беларусі? Ага! Яшчэ як вядомыя! Хакейны клуб “Дынама-Мінск” падобныя каткі “раздае”, проста, бясплатна!

Чытаю: “ТАА “Торвлад” і ХК “Дынама-Мінск” склалі дамову аб супрацоўніцтве, у рамках якой усе хакейныя школы, якія ўваходзяць у дынамаўскую сістэму, будуць **бясплатна** забяспечаныя штучным лёдам Super-Glide! 258 м² такога лёду, а таксама адмысловыя пляцоўкі для трэніроўкі палявых гульцоў і брамнікаў ужо адпраўленыя ў Маладзечна і Раўбічы. Таксама штучны лёд ад “Дынама-Мінск” атрымаюць Бяроза, Бабруйск і Пружаны. На дадзены момант у сістэме ХК “Дынама-Мінск” пяць школ. Галаўная, ДЮСШ БФСО “Дынама” і даччыныя – Бабруйск, Маладзечна, Бяроза, Пружаны. Дарожная карта развіцця маркуе яшчэ заключэнне дамоў з хакейнымі школамі Баранавіч, Пінска і Кобрына.

І што самае важнае! Вельмі нізкія эксплуатацыйныя выдаткі ў параўнанні з сапраўдным лёдам – менш на 90-95%. Гарантыйны тэрмін складае 10 гадоў, тэрмін эксплуатацыі – 20-25 гадоў.



**Вельмі паказальнае фота!**
Здымак з *hcdinamo.by*

# У суд перададзена справа працаўнікоў Мёрскага РАЙПО, якія выкралі 400 000 рублёў

**Па справе пра крадзяжы ў Мёрскім РАЙПО перад судом паўстануць 8 працаўнікоў гэтай арганізацыі, адзін з фігурантаў справы – старшыня – да суда не дажыў.**

З траўня 2013 года па ліпень 2015 года арганізаваная група з 9 супрацоўнікаў РАЙПО выкрала з касы таварыства больш за 400 000 рублёў (дэнамінаваных).

Так, у чэрвені 2011 года галоўны бухгалтар загадала аднаму з касіраў забраць з касы 1 600 рублёў, прысвоіўшы гэтыя грошы сабе. Пры гэтым расходныя касавыя дакументы не афармляліся, а аперацыі ў бухгалтарскім уліку не адлюстроўваліся. Пасля крадзеж быў утоены галоўным бухгалтарам і касірам шляхам складання падробленых дакументаў і правядзення іх па бухгалтарскім уліку таварыства.

Пасля, як усталявала следства, старшыня праўлення, уступіўшы ў злачынную змову з галоўным бухгалтарам, яго намеснікамі, а таксама старшынёй рэвізійнай камісіі, касірам і бухгалтарамі Мёрскага РАЙПО, на працягу некалькіх гадоў у складзе арганізаванай групы здзяйснялі рэгулярныя крадзяжы грошай з касы.

Старшыня рэвізійнай камісіі не праводзіла інвентарызацый наяўных грашовых сродкаў у касе РАЙПО, не правярала ўлік і справаздачнасць і не адлюстроўвала ў актах інвентарызацый наяўныя нястачы ў касе.

Для ўтойвання сваіх крадзяжоў працаўнікі РАЙПО ўносілі лжывыя звесткі пра вынікі фактычна праведзеных касавых аперацый па рэшце наяўных грашовых сродкаў для залічэння на разліковыя рахункі таварыства і іх наступным фактычным распараджэнні. Акрамя таго, саўдзельнікі выраблялі і складалі падробленыя бухгалтарскія дакументы, у якіх адлюстроўвалі няпоўныя звесткі пра фактычны змест гаспадарчых аперацый, звязаных з расходаваннем грашовых сродкаў з касы таварыства, а таксама з разліковых рахункаў Мёрскага РАЙПО ў перыяд крадзяжу.

Дзеянні абвінавачваных кваліфікаваны следствам як крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, здзейсненае групай асобаў па папярэдняй змове, арганізаванай групай, у асабліва буйным памеры; службовая падробка, паведамляе афіцыйны прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Святлана Сахарава.

У залежнасці ад цяжару здзейсненых злачынстваў да абвінавачваных ужыты меры спынення ў выглядзе ўтрымання пад вартай, хатні арышт ці падпіска пра нявыезд і належныя паводзіны.

У адносінах да старшыні праўлення крымінальны пераслед быў спынены ў адпаведнасці з пунктам 7 часці 1 артыкулы 29 УПК, бо ён памёр.

Падчас папярэдняга расследавання было пакрыта звыш 79 000 рублёў, акрамя таго накладзены арышт на маёмасць абвінавачваных, у тым ліку аўтамабілі, дачны дом і ювелірныя вырабы на агульную суму больш за 281 000 рублёў. Крымінальная справа вывучана пракурорам і накіраваная ў суд.

***ННВ.***

# Прафілактыка трыхінелёзу

**За 9 месяцаў 2016 года ў Віцебскай вобласці зарэгістравана 6 выпадкаў захворвання на трыхінелёз, з іх 3 выпадкі – у Глыбоцкім раёне (за аналагічны перыяд 2015 года ў Віцебскай вобласці зарэгістравана 5 выпадкаў трыхінелёзу, у Глыбоцкім раёне трыхінелёз не рэгістраваўся).**

■ **Лілія Барэйка,** *намочнік урача-паразітолага Глыбоцкага РЦГЭ*

На трыхінелёз хварэюць людзі і многія драпежныя жывёлы.

Заражэнне людзей адбываецца пры ўжыванні ў ежу недастаткова тэрмічна апрацаванага мяса і мясных прадуктаў, якія змяшчаюць лічынкі трыхінел.

У мясных прадуктах пры тэмпературы 12°С лічынкі трыхінел выжываюць да 2 месяцаў. Саленне пагібельна дзейнічае на лічынкі толькі ў павярхоўных пластах мяса, а тыя з іх, якія знаходзяцца ў глыбіні, захоўваюць жыццяздольнасць на працягу года. Трыхінелы пераносяць вэнджанне і застаюцца жыццяздольнымі пры варэнні ці смажанні вялікіх кавалкаў мяса.

У кішэчніку лічынкі трыхінел ператвараюцца ў полаваспелых самцоў і самак. Пасля апладнення самцы гінуць, а самкі нараджаюць жывых лічынак (да 2000 кожная). Лічынкі з токам крыві і лімфы разносяцца па ўсім целе і ўкараняюцца ў мышцы дыяфрагмы, стрававода, языка, жавальныя, міжрэбравыя, мышцы канечнасцяў, мышцы вочнага яблыка, згортваюцца ў спіраль і пакрываюцца капсулай, захоўваючы ў такім выглядзе сваю жыццяздольнасць да 10 і больш гадоў.

Працягласць інкубацыйнага перыяду з моманту заражэння да з'яўлення клінічных сімптомаў пры захворванні на трыхінелёз складае ад 1-га да 40 дзён. Асноўнымі клінічнымі праявамі трыхінелёзу з'яўляюцца павышэнне тэмпературы да 39$^0$С і вышэй, ацёкі век і твару, мышачныя болі (часцей у ікраножнай вобласці), скурныя высыпанні.



Пры цяжкіх формах захворвання развіваюцца ўскладненні з боку органаў стрававання, сардэчна-сасудзістай і дыхальнай сістэм, цэнтральнай нервовай сістэмы, якія прыводзяць да інваліднасці або смерці.

**Каб пазбегнуць заражэння трыхінелёзам варта выконваць наступныя правілы:**

■ абавязкова правяраць у ветэрынарнай лабараторыі на трыхінелёз мяса хатніх свіней і дзікоў, здабытых на паляванні; у Глыбоцкім раёне даследаванне праводзіцца ў лабараторыі ветэрынарна-санітарнай экспертызы ГЛПУ "Глыбоцкая раённая ветэрынарная станцыя", размешчанай на тэрытарыяльным рынку Глыбоцкага райспажыўтаварыства (час працы: без выхадных з 8$^{00}$–17$^{00}$, абед: з 13$^{00}$–14$^{00}$, нядзеля: з 6$^{00}$–13$^{00}$ без абеду);

■ не набываць мяса "з рук", з асабістага падворка грамадзян, у месцах несанкцыянаванага гандлю, дзе адсутнічае дзяржаўны кантроль якасці мяса і мясной прадукцыі; паводле дзеючага ў нашай краіне ветэрынарнага заканадаўства ўсё мяса, якое паступае на рынкі, мясаперапрацоўчыя прадпрыемствы, у крамы і аб'екты грамадскага харчавання, у абавязковым парадку праходзіць ветэрынарна-санітарную экспертызу;

■ у працэсе падрыхтоўкі ежы не рэкамендуецца спрабаваць сыры мясны фарш;

■ абараняць памяшканні для ўтрымання жывёлы ад пранікнення грызуноў, праводзіць дэратызацыю (знішчэнне пацукоў, мышэй) у жылых і прысядзібных пабудовах.

# Захацеў злавіць залатую рыбку – зараз чакае выкліку ў суд

**Штотыдзень ва ўсіх сродках масавай інфармацыі з'яўляюцца артыкулы, нататкі аб учыненых фактах браканьерства на тэрыторыі краіны, пра асоб, што іх учынілі і пакараннях вынесеных судамі за ўчыненыя злачынствы, тэлеперадача Зона "Х" сістэматычна асвятляе самыя свежыя факты парушэння прыродаахоўнага заканадаўства.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

Стаўленне грамадзян да парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства прыкметна змянілася, людзі нашмат радзей парушаюць і часцей звяртаюцца ў прыродаахоўныя органы, паведамляючы пра факты браканьерства і парушэнні.

Аднак, яшчэ не рэдкія выпадкі браканьерства, пры гэтым грамадзяне наўмысна парушаюць закон, нягледзячы на заўвагі грамадзян аб парушэннях, браканьеры іх проста ігнаруюць, лічачы сябе вышэй за іншых і вышэй за закон.

Так, 18 кастрычніка 2016 года жыхар Пастаўскага раёна, назавем яго Пятром, жыве ў невялікай вёсцы на беразе прыгожага возера Доўгае, а таму лічыць неабходным для сябе лавіць рыбу сеткамі, прычым у белы дзень, наіўна мяркуючы, што раз ён жыве каля вады, то і яму ўсё дазволена. Толькі вось інспектары міжраённай інспекцыі думаюць трохі па-іншаму. Вось Пётр выйшаў з хаты, узяўшы сеткі, накіраваўся проста да возера, каб злавіць залатую рыбку, але, на жаль, не лёс. Нібы з-пад зямлі, з'явіліся інспектары, цап Пятра пад белыя ручкі, ды да службовай машыны, ды і склалі пратакол, а сеткі канфіскавалі. Цяпер сядзіць Пётр у сябе дома і чакае выкліку ў суд.

Жыхар слаўнага горада Глыбокае грамадзянін К., прыехаў да возера Мушкат і вырашыў памыць машынку, зачэрпнуў вядро вады, другое, трэцяе - ужо і машына заблішчала, ды толькі далейшае мыццё спынілі інспектары, якія і патлумачылі ўладальніку аўто неправамернасць яго дзеянняў, а штраф у памеры 5 базавых велічынь будзе добрым напамінам у будучыні.

Гэта ўсяго маленькая частка выяўленых за тыдзень парушэнняў, але і па іх можна рабіць высновы: не парушай і жыві спакойна.

**Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету просіць усіх грамадзян паведамляць пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства на тэлефоны "гарачай лініі" кругласутачна: 8-02156-2-86-70, 2-80-30, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**





# Не быць абыякавымі да праблемаў іншых людзей

**У Глыбокім прайшло мерапрыемства "Мы разам", якое, пры падтрымцы мясцовых уладаў і прадпрымальнікаў, арганізавала дабрачынная арганізацыя "Карытас" пры парафіі Святой Тройцы.**

■ **Зміцер Лупач**

На яго сабраліся людзі з абмежаванымі магчымасцямі, іх бацькі, апекуны, сацыяльныя работнікі як з Глыбокага, так і з суседніх райцэнтраў.

Мэта акцыі – звярнуць увагу грамадства на праблемы людзей з абмежаванымі магчымасцямі. У нашай краіне прысутнічае яшчэ тэндэнцыя, якая дасталася нам у спадчыну ад савецкіх часоў, калі інвалідаў хавалі ад грамадства, таму людзі іх не заўважаюць, і ў грамадстве прысутнічае некаторая абыякавасць да праблем гэтых людзей.

Распачалася акцыя ў касцёле Святой Тройцы. Удзельнікі разам прачыталі малітву "Ойча наш" і рушылі ў гарадскі Дом культуры, дзе і прайшла асноўная частка праграмы.

У Круглай зале Дома культуры людзей з абмежаванымі магчымасцямі ўжо чакалі валанцёры "Карытас", якія разам з супрацоўнікамі Дома культуры падрыхтавалі для іх забаўляльную праграму. Удзельнікаў чакалі гульні, конкурсы, танцы. А бацькі, апекуны, святары, сацыяльныя работнікі сабраліся ў гэты час на Круглы стол, дзе абмеркавалі праблемы, з якімі сутыкаюцца людзі з абмежаванымі магчымасцямі ў нашым грамадстве, і шляхі іх вырашэння.

Адметнасцю сёлетняй акцыі стала прысутнасць на ёй гасцей з Францыі. Яны патрапілі на мерапрыемства выпадкова, бо якраз у гэты час прывезлі гуманітарную дапамогу ад "Карытас" з Францыі для глыбоцкага Цэнтра тэрытарыяльнага абслугоўвання насельніцтва, тым не менш яны былі вельмі задаволеныя тым, што змаглі ў ім паўдзельнічаць.

Сацыяльныя педагогі звярнулі ўвагу прысутных на такую праблему, як адсутнасць у пэўнай часткі грамадства разумення таго, што інваліды павінны быць інтэграваны ў грамадства. Часта настаўнікі і бацькі выступаюць супраць таго, каб здаровыя дзеці вучыліся разам з дзецьмі-інвалідамі. А гэта няправільна, бо такія дзеці павінны адчуваць сябе часткай грамадства. Такія кантакты карысныя і для здаровых дзецей, бо яны вучацца ўспрымаць інвалідаў як частку грамадства, больш разумець іх патрэбы.

Пасля абеда, які прайшоў у сталовай сярэдняй школы №2, удзельнікаў мерапрыемства чакаў канцэрт, які падрыхтавалі як супрацоўнікі аддзела культуры, так і самі людзі з абмежаванымі магчымасцямі.

# Чыстыя рукі – аснова добрага здароўя



**Рукі – наш галоўны інструмент, які мы пастаянна ўжываем, калі бярэмся за самыя розныя прадметы: дзвярныя ручкі, поручні, грошы, камп'ютарную мыш.**

■ **Т. Кадушкевіч,** *загадчыца лабараторным аддзелам*

А ўсе гэтыя рэчы зусім не стэрыльныя, на іх знаходзяць прытулак тысячы хваробатворных мікраарганізмаў. Датыкаючыся да гэтых забруджаных рэчаў, мы пераносім частку мікробаў на рукі. Абавязковае мыццё рук і ўтрыманне іх у чыстаце – гэта не проста капрыз, гэта неабходнасць, якая павінна абараніць наш арганізм ад мноства хваробатворных мікраарганізмаў.

Пазбегнуць хвароб брудных рук можна з дапамогай ужывання ўніверсальнага сродку – мыла. Працэдура простага мыцця рук з мылам дапамагае выдаліць з паверхні скуры да 90% мікраарганізмаў і дазваляе значна знізіць перадачу інфекцый кантактна-бытавым шляхам, напрыклад, верагоднасць кішачных інфекцый зніжаецца да 40% пры рэгулярным мыцці рук.

**Пяць простых крокаў пры мыцці рук, каб захаваць здароўе:**

1) намачыце рукі цёплай, па магчымасці, вадой і намыльце іх (або нанясіце невялікую колькасць вадкага мыла (больш пажадана) памерам з гарошыну;

2) трыце рукі да таго часу, пакуль мыла не ўспеніцца, надаючы ўвагу пальцам, скуры паміж пальцаў і пад пазногцямі;

3) працягвайце церці рукі яшчэ 15 секунд;

4) змыйце мыла пад праточнай вадой;

5) высушыце рукі пры дапамозе папяровага ручніка.

Для паляпшэння якасці свайго жыцця і добрага самаадчування блізкіх мыйце рукі:

● да і падчас падрыхтоўкі ежы;

● перад прыняццем ежы;

● пасля догляду за хворым членам сям'і;

● перад апрацоўкай ран, парэзаў, ранак на скуры;

● пасля наведвання туалета;

● пасля чхання, кашлю, ачышчэння носа;

● пасля дотыку да жывёл, нават уласных;

● пасля кантакту з бытавымі адходамі;

● пасля вяртання дадому з вуліцы;

● калі рукі брудныя або даўно не мытыя.

Для сталага выкарыстання дома рэкамендуецца аддаваць перавагу звычайнаму мылу без антыбактэрыйных уласцівасцяў. Працяглае выкарыстанне мыла з антыбактэрыйным эфектам парушае натуральны, супрацьмікробны баланс скуры, а таксама памяншае колькасць нармальнай скурнай флоры, што прыводзіць да зніжэння мясцовага імунітэту, развіцця скурных, алергічных захворванняў, а таксама спрыяе фармаванню ўстойлівасці мікраарганізмаў да антыбактэрыйных сродкаў.

## Узровень пажарнай бяспекі правераных суб'ектаў

**У верасні-кастрычніку інспекцыяй нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях праведзены праверкі ўзроўню пажарнай бяспекі суб'ектаў гаспадарання.**

Так, пры праверцы **КУП(СГ)П «Яблынька»** высветлілася, што: не ўсе будынкі і збудаванні сельскагаспадарчага прадпрыемства забяспечаны першаснымі сродкамі пажаратушэння згодна нормаў Палажэння; аб'екты гаспадаркі не абсталяваны ўстаноўкамі пажарнай аўтаматыкі; пажарныя вадаёмы не пазначаныя ў адпаведнасці з патрабаваннямі; навучанне работнікаў мерам пажарнай бяспекі арганізавана не ў поўным аб'ёме; не арганізавана навучанне работнікаў па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму; працаўнікі гаспадаркі, задзейнічаныя ў рэалізацыі плана эвакуацыі, не забяспечаны самавыратавальнікамі; не арганізавана работа ПТК і ДПД, не прадастаўлены акты абследавання жылых дамоў, якія знаходзяцца на балансе прадпрыемства.

**ТАА «ЭкоСтройМир»** правяралася кантрольна, у ходзе праверкі ўстаноўлена, што з прапанаваных раней 7 мерапрыемстваў, па якіх скончыліся тэрміны, было выканана 5 (71%). Засталіся не выкананымі наступныя пункты: заключыць дагавор са спецыялізаванай арганізацыяй на абслугоўванне аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі ў памяшканні мэблевага цэха; забяспечыць будынак цэха спраўнай аховай ад маланак згодна ТКП 336-2011.

Аб'екты транспартнага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства **«Віцебскае аддзяленне Беларускай чыгункі»** (станцыі Глыбокае, Падсвілле, Баравое, Зябкі, Загацце) таксама правяраліся кантрольна, па выніках была ўручана даведка, г.зн. усе вызначаныя мерапрыемствы былі выкананыя ў поўным аб'ёме.

*Інспекцыя нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага РАНС*

## МНС інфармуе

**на 25.10.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 558;
Гібель людзей – 58, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 17;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

# Электразабеспячэнне і асвятленне ў ванным пакоі

**Ванны пакой у любой кватэры з'яўляецца калі і не асабліва небяспечным, то, па меншай меры, памяшканнем з падвышанай небяспекай.**

■ **А. Ішуцін,** *інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА "Энерганагляд"*

Гэта азначае, што верагоднасць таго, што чалавек атрымае паражэнне электрычным токам у ванным пакоі, высокая, а наступствы ў выпадку такога ўдару будуць больш цяжкімі.

З гэтага вынікае і большая адказнасць, якая патрабуе ад нас прыняцця дадатковых мер бяспекі пры ўстройстве і мантажы электраправодкі ваннага пакоя. Для памяшканняў з падвышанай небяспекай рэкамендуюцца такія меры:

■ прымяненне ахоўнага зазямлення, увядзенне трэцяга, ахоўнага, правадніка;

■ выкарыстанне апаратаў абароны ад токаў уцечкі – УЗО або дыферэнцыяльных аўтаматычных выключальнікаў.

У дачыненні да ванных пакояў абедзве меры з'яўляюцца абавязковымі.

Размяшчаць разгалінавальныя скрынкі ў ванным пакоі не варта, за выключэннем скрынкі, якая ўваходзіць у сістэму выраўнівання патэнцыялаў, пра якую раскажам крыху ніжэй.

Выключальнікі ў ванным пакоі, па магчымасці, лепш таксама не размяшчаць. Аднак, калі вельмі трэба, то выключальнік у ванным пакоі павінен:

■ мець ступень абароны не менш за IP44;

■ размяшчацца далей ад ванны або душавой кабіны (у ідэале на адлегласць не менш за два метры).

Разеткі ў ванным пакоі былі б непажаданыя, але сёння без іх не абысціся ніяк. Неабходна падаць сілкаванне да пральнай машыны, пакінуць разетку для электрабрытвы і ці мала што яшчэ. Іх таксама размяшчаем далей ад ванны або душавой кабінкі і абавязкова ўключаем у сетку з УЗО. Ступень абароны разетак тая ж – IP44, пырскаахоўная крышка на спружыне абавязковая.

Свяцільнікі для ваннага пакоя лепш выбіраць нізкавольтныя. І ўжо ва ўсякім выпадку, лепш устрымацца ад прымянення свяцільнікаў на 220 Вольт без штатнага кантакту для зазямлення. Адзінкавыя свяцільнікі часта размяшчаюць над уваходам, каб пазбегнуць патраплення пырскаў вады на плафон або лямпу.

Сістэма выраўнівання патэнцыялаў мае для ваннага пакоя асаблівае значэнне. Абмежаваная прастора і падвышаная вільготнасць прыводзяць да таго, што верагоднасць адначасовага дакранання з добрым электрычным кантактам да дзвюх металічных канструкцый, якія звычайна не знаходзяцца пад напругаю, вельмі вялікая. А калі на гэтых дзвюх канструкцыях паўстане розніца патэнцыялаў, то такі дотык папросту можа стаць апошнім у вашым жыцці.

Таму ствараем дадатковую сістэму выраўнівання патэнцыялаў для ваннага пакоя, якая ўключыць у сябе:

■ праваднік РЭ, злучаны з зазямляльнай шынай у кватэрным шчытку;

■ металічныя карпусы прыбораў – пральнай машыны, радыятара ацяплення, бойлера і таму падобнага;

■ металічныя трубы стаяка гарачай і халоднай вады;

■ металічную ванну і ракавіну.

Усё гэта павінна быць электрычна звязана з праваднікомРЭ, які спецыяльна заводзіцца для гэтай мэты ў ванны пакой. Прычым не мае значэння той факт, што, скажам, пральная машына ўжо зазямлёная праз адпаведныя кантакты разеткі. Робіцца гэта, перш за ўсё, для выраўнівання патэнцыялаў, а не для зазямлення.

Мантаваць гэты провад можна таксама як і ўсю астатнюю праводку. Выкарыстоўваць для гэтага трэба штатныя месцы для зазямлення або прасвідраваць спецыяльныя адтуліны дыяметрам 6 мм.

Для падлучэння да труб неабходна выкарыстоўваць спецыяльныя хамуты з шрубавым заціскам для провада. Трубу перад устаноўкай хамута трэба зачысціць да чыстага металу.

Праваднікі дадатковай сістэмы выраўнівання патэнцыялаў варта злучыць у адзінай разгалінавальнай скрынцы ваннага пакоя.



